# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 4 (266) 28 студзеня — 3 лютага 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ





***23 студзеня ў памяшканні Тэатра оперы і балета адбылася ўрачыстая прэзентацыя новага мастацкага альбома "Міхаіл Савіцкі", на якой з цёплымі словамі ў адрас мастака і выдаўцоў кнігі выступілі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі, народны артыст Беларусі Уладзімір Гасцюхін, старшыня праўлення Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і Прымірэнне" Валянцін Герасімаў.***

Сустрэча з новай кнігай пра мастацтва заўсёды поўніцца чаканнямі незвычайнага. Зазвычай чытач у гэтых выданнях шукае нагоду не толькі зноў убачыць прыгожа адноўленыя творы знакамітых мастакоў, але таксама спадзяецца знайсці арыгінальныя і свежыя меркаванні ў аўтарскім тэксце.

Сёння кнігі па выяўленчым мастацтве ацэньваюцца не толькі паводле паліграфічных вартасцяў. Цікавы, не шаблонны падыход на даследуемага матэрыялу, глыбокі аналіз, своеасаблівасць аспектаў вывучэння мастацкай творчасці — ўсе гэтыя складнікі вызначаюць поспех выдання разам з якасцю і колькасцю ілюстрацый.


*(Працяг на стар. 4)*




# МІХАІЛ САВІЦКІ. МАСТАК. ЧАС. ГІСТОРЫЯ

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# ВАЙСКОЎЦАМ — ПРА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЮ

***Культурна-масавыя мерапрыемствы паводле творчасці Петруся Броўкі звычайна праходзяць у цёплай атмасферы залы. Да гэтага скіроўвае ўдзельнікаў і слухачоў глыбока лірычная, філасафічная паэзія народнага паэта. Гэта яшчэ раз пацвердзілася, калі ў нядзелю 19 студзеня ў Доме афіцэраў выконвалася літаратурна-мастацкая праграма, прысвечаная П.Броўку як аўтару лірычных вершаў і першаму рэдактару Беларускай Энцыклапедыі ў сувязі з 30-годдзем энцыклапедычнай выдавецкай дзейнасці на Беларусі.***

Зала была поўная. Вайскоўцы, курсанты і афіцэры, цывільныя людзі — прыхільнікі паэзіі П.Броўкі сядзелі не толькі ў партэры, але і на балконе.

Лірычная песня "А ты ідзі" на словы П.Броўкі (музыка І.Раманчука) у выкананні народнага ансамбля "Мінскі гармонік" настроіла слухачоў на лірычны лад.

Уважліва праслухалі прысутныя сціслае, вобразнае і эмацыянальнае паведамленне літаратуразнаўцы, вопытнага музейшчыка Міхала Пратасевіча аб такіх асаблівасцях паэзіі П.Броўкі, як глыбокі лірызм, філасафічнасць і духоўнасць, якія закладзены не толькі ў змест яго вершаў, але і ў вобразную сістэму іх.

З цікавасцю ўспрымалі слухачы інфармацыю галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя", беларускага пісьменніка Генадзя Пашкова аб энцыклапедычнай справе ў Беларусі, аб тым, якія энцыклапедыі ў нас выйшлі з друку, што плануецца выпускаць. А зараз рыхтуюцца да выдання наступныя тамы новай універсальнай "Беларускай Энцыклапедыі" ў 18 тамах, 2 першыя тамы якой ужо можна набыць у кнігарнях або ў самім выдавецтве па больш нізкім кошце.

Шчырымі воплескамі адзначылі слухачы Генадзю Пашкову за прачытаны ім верш, прысвечаны Ф.Скарыне і верш на тэму кахання.

Зямляк П.Броўкі — пісьменнік Алесь Савіцкі ў сваім эмацыянальным публіцыстычным выступленні нагадаў факты з творчай гісторыі ўжо класічнай песні "Александрына" і быў таксама ўзнагароджаны воплескамі.

Настраёвую цеплыню ў зале да канца праграмы ўтрымлівау ансамбль "Мінскі гармонік", які выканаў яшчэ адну песню на вершы П.Броўкі — "Роднае слова", некалькі народных песень і песень на словы кіраўніка ансамбля і кампазітара І.Раманчука.

Маладыя вайскоўцы слухалі выкананне песень салістам ансамбля Алегам Каўбасавым.

Канцэртную частку, асобныя нумары якой чаргаваліся з выступленнямі літаратараў, упрыгожвалі сваёй ігрой на скрыпках Наталля Семашкевіч і Павел Вільтоўскі.

Спевакам узнёсла акампаналі на гармоніках кіраўнік ансамбля І.Раманчук і В.Забуга. У канцы гэтай змястоўнай сустрэчы творчых працаўнікоў беларускай культуры з вайскоўцамі вядучы праграмы, супрацоўнік Дома афіцэраў А.Веарабей горача падзякаваў пісьменнікам Г.Пашкову, А.Савіцкаму, літаратуразнаўцу М.Пратасевічу і ансамблю "Мінскі гармонік" за цікавыя выступленні.

**Марыя СТЭФАНОВІЧ**




***26 студзеня ў мінскім кінатэатры "Змена" па ініцыятыве ягонага дырэктара Ніны Палуян адбылася творчая вечарына, прысвечаная 59-й гадавіне з дня нараджэння Уладзіміра Высоцкага.***

На сустрэчу з гледачамі, якія прыйшлі паглядзець знакаміты фільм Віктара Турава "Я родам з дзяцінства", дзе Высоцкі сыграў сваю першую вялікую ролю, былі запрошаны заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, мастацтвазнаўца Барыс Крэпак, вядомая пісьменніца Лідзія Арабей, паэт-бард, настаўнік гісторыі школы Дзіцячага цэнтра "Надзея XXI стагоддзя", што на Вілейшчыне, — Уладзімір Цанунін.

Б.Крэпак, які добра ведаў В.Турава, распавёў пра шматгадовае сяброўства кінарэжысёра з У.Высоцкім, пра тое, як "рабілася" стужка "Я родам з дзяцінства", як ствараліся да яе песні выдатнага акцёра і барда, пра няпросты лёс гэтага фільма, што пазней увайшоў у залатую скарбонку айчыннага кінематографа.

Л.Арабей падзялілася ўспамінамі пра тое, як яе муж вядомы беларускі майстар кіно Яўген Ганкін, які не так даўно пайшоў з жыцця, працаваў над карцінай у якасці мастака-пастаноўшчыка, як адбываліся кіназдымкі ў экспедыцыях па Гродзеншчыне, а таксама пра сустрэчы Я.Ганкіна з У.Высоцкім і М.Уладзі пазней на Навагрудчыне.

У.Цанунін узгадаў пра сваю кароткую сустрэчу з Высоцкім у гарах Каўказа ў 1976 годзе і праспяваў пад гітару некалькі аўтарскіх песень. Па просьбе гледачоў ён выканаў таксама песні Высоцкага "На братских могилах" і "Кони привередливые".

Вечарына прайшла ў цёплай, сардэчнай атмасферы. Больш за 16 гадоў мінула з таго дня, як пайшоў ад нас Уладзімір Сямёнавіч, але чалавечая памяць пра яго не згасае...

**Наш кар.**

*М.Савіцкі. "Высоцкі". П., а. 1987.*



Фальклорны ансамбль "Купалінка" — самы папулярны сярод дзевяці калектываў мастацкай самадзейнасці, якія працуюць пры Бездзежскім сельскім Доме культуры, што ў Драгічынскім раёне. У ягоным рэпертуары больш за сто абрадавых песень, пастановак. Народны калектыў выконвае толькі тыя творы, якія нарадзіліся ў гэтым рэгіёне і стагоддзямі перадаваліся ад бацькоў дзецям. У апошнія гады самадзейныя артысты выступалі на міжнародным фальклорным фестывалі ў Пінску, наведалі з канцэртамі Польшчу, іх неаднаразова паказвала Беларускае тэлебачанне.

*На здымку: рэпеціруе "Купалінка".*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

# ПАЧАТАК ТРАНСЛЯЦЫІ КУРСА ФРАНЦУЗСКАЙ МОВЫ ПА БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ ТЭЛЕБАЧАННІ

***Аддзел культуры Амбасады Францыі рады паведаміць пра пачатак трансляцыі тэлевізійнага курса французскай мовы для пачаткоўцаў па Беларускім дзяржаўным тэлебачанні пачынаючы з 3 лютага 1997 года.***

Размова ідзе пра 32 перадачы па трыццаць хвілін кожная, што запісаны з 1991 па 1993 год у Маскве французскім выкладчыкам і прафесарам МДУ Вольгай Раеўскай паводле методыкі "Запрашаем у Францыю" ("Bienvenue en France"), якая з'яўляецца асновай кожнай перадачы; у іх уключаны дадаткі па граматыцы, лексікалогіі, краіназнаўстве спецыяльна для рускамоўных гледачоў. Кожная перадача мае завершаны характар і яе можна выкарыстоўваць, не звяртаючыся да падручніка. Трансляцыя гэтых перадач праводзілася на канале "Расійскія універсітэты" да 1994 года, калі быў спынены паказ усіх моўных праграм. Перадачы мелі вялікі поспех у навучэнцаў школ, якія вывучалі мову індывідуальна, а таксама ў выкладчыкаў.

У адказ на шматлікія запыты Амбасада Францыі звярнулася да "Расійскіх універсітэтаў" для таго, каб атрымаць гэты курс для выкарыстання на Беларускім дзяржаўным тэлебачанні. Французскі бок набыў правы трансляцыі курса для Беларусі і арганізаваў навучанне ў Францыі беларускага рэжысёра. Франка-беларуская зала інфармацыі пра сучасную Францыю пры бібліятэцы імя А.Пушкіна ў Мінску валодае адпаведнымі гэтай методыцы падручнікамі (даршчы, перадачы самадастатковыя і не патрабуюць падручніка).

Дадаю ўступную прамову прафесара Вольгі Уладзіміраўны Раеўскай, загадчыцы кафедры раманскай філалогіі філалагічнага факультэта МДУ, суаўтара тэлевізійнага курса.

**Франсуа ЛАРАН,**
**дарадца па культуры Амбасады Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

* * *

Курс французскай мовы "Bienvenue en France" — "Запрашаем у Францыю" — прызначаны для пачаткоўцаў, якія вывучаюць французскую мову, для тых, хто хоча навучыцца размаўляць і разумець па-французску ў сітуацыях штодзённых зносінаў.

Курс "Bienvenue en France" — гэта відэафільм і падручнік. Нашы тэлевізійныя перадачы адпавядаюць урокам курса. У цэнтры кожнага ўрока — невялікі фільм з нескладаным, але амаль заўсёды забаўляльным сюжэтам. Галоўныя героі гэтых фільмаў — сімпатычныя маладыя людзі Vincent і Francoise. Вакол сюжэта групуецца навучальны матэрыял — граматычны, лексічны, камунікатыўны, краіназнаўчы.

Важнай часткай курса і, адпаведна, тэлевізійных перадач з'яўляюцца каментарыі вядучых, якія прапануюць тэлегледачам неабходныя тлумачэнні і розныя практыкаванні для засваення і замацавання новага матэрыялу. У сувязі з гэтым пажадана па магчымасці запісваць нашыя перадачы на відэамагнітафон для больш паспяховага аваладвання матэрыялам.

Курс нездарма называецца "Bienvenue en France". Ён не толькі вучыць размаўляць і разумець па-французску, але і дае самыя разнастайныя звесткі пра жыццё Францыі і французаў. Гэта — тое, што называецца краіназнаўчай інфармацыяй.

Наш тэлевізійны курс прадугледжвае таксама рэгулярныя кантрольныя ўрокі для таго, каб тэлегледачы здолелі яшчэ раз праверыць, наколькі яны засвоілі выкладзены матэрыял.

Карацей: сюжэты простыя і забаўляльныя, героі сімпатычныя, каментарыі зразумелыя, практыкаванні прадуманыя, інфармацыя цікавая і актуальная. Тэлегледачам застаецца толькі ўважліва глядзець і слухаць, а таксама акуратна выконваць усе заданні.

**Вольга РАЕЎСКАЯ**



Малое прадпрыемства "Тверыс-Вест" у Брэсце засвоіла тэхналогію вырабу прадметаў са шкла і зараз у невялікім цэху выпускае сапраўдныя мастацкія творы, якія пабывалі на многіх замежных выставах і выклікалі цікавасць замежных фірм.

*На здымку: прадукцыя малога прадпрыемства "Тверыс-Вест".*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# НЕ ВЫМЯРАЕЦЦА ГРАШЫМА...

***Сёння пра дзейнасць установы культуры ўжо не мяркуюць па колькасці створаных тут гурткоў. Аднак і само паняцце "мастацкая самадзейнасць" патроху знікае з нашай лексікі. І ўсё ж такі мастацкая творчасць непрафесіяналаў працягвае жыць. У асноўным — на энтузіязме неабыякавых людзей.***

Віцебскі Гарадскі цэнтр культуры (ГЦК) сёння вядомы многім хутчэй як штаб галоўнага ў горадзе фестывалю мастацтваў. Так, дырэктар ГЦК Радзівон Бас з'яўляецца дырэктарам Генеральнай дырэкцыі фестывалю "Славянскі базар". У ліпеньскія фестывальныя дні менавіта ў ГЦК працуе прэс-цэнтр, адбываюцца амаль усе прэс-канферэнцыі, "Рандэву з зоркай" і іншыя мерапрыемствы "Славянскага базару".

Але ж Гарадскі цэнтр культуры — не толькі і не столькі штаб фестывалю мастацтваў. Гэта найстарэйшая ў вобласці ўстанова культуры, дзе працуюць каля сотні сапраўдных энтузіястаў, і асноўную стаўку ў сваёй дзейнасці цэнтр робіць усё-такі на арганізацыю народнай торчасці.

Больш за сорак гадоў таму старажытны будынак былога Афіцэрскага сходу на вуліцы Маякоўскага быў прыстасаваны пад Дом культуры. Была тады тут адна-адзіная зала — і для танцаў, і для канцэртаў. Надыходзіў вечар выхаднога дня — у зале перасоўвалі мэблю і пачыналіся танцы. Дарэчы, першая ў горадзе дыскатэка адбылася менавіта тут. Людзі старэйшага пакалення памятаюць энтузіястаў, якія былі "душой" усіх вечарын у Доме культуры: Яўгена Васілеўскага, сённяшняга саліста опернага тэатра ў Літве, дырыжора вайсковага аркестра Мікалая Камінскага... Памятаюць гараджане і тэматычныя вечары, што нязменна выклікалі вялікі рэзананс, і ўшанаванні перадавікоў, і вечары-партрэты. І, безумоўна ж, фестывалі — "Парад дыксілендаў", фестываль эстраднай музыкі "Чырвоны гваздзік".

У той жа час тут узнікалі гурткі, студыі, аматарскія аб'яднанні. У Доме культуры трывала ўсталяваліся прыхільнікі музыкі, тэатра, харэаграфіі. Менавіта ў гэты час ствараў, да прыкладу, заслужаны работнік культуры Беларусі Л.Барадулька шырокавядомую "Лявоніху". Патроху ўзнікалі і філіялы, першым з якіх стала Круглая зала на вуліцы Крылова.

А чатырнаццаць гадоў таму асноўны будынак паставілі на капітальны рамонт. Дом культуры перасялілі ў былую пажарную частку побач са Смаленскім рынкам, пра што супрацоўнікі дасюль узгадваюць з цёплай усмешкай: печкі, утульнасць — зусім па-хатняму.

Пасля рамонту будынак на вуліцы Маякоўскага быў моцна зменены — з'яднаўшыся з суседнім жылым домам, супрацоўнікі Дома культуры атрымалі ў сваё карыстанне дадатковыя памяшканні для гуртковай працы. Адзін за адным узнікалі новыя філіялы: парк сямейнага адпачынку, салон-магазін "Вольга", галерэя (сённяшні Арт-цэнтр М.Шагала), дзіцячы цэнтр ужытковай творчасці. А ў 1988 годзе для гледачоў адчыніўся Летні амфітэатр з культурна-спартыўным комплексам. Усё гэта не вельмі дапасоўвалася да назвы Дом культуры, а таму было прынята рашэнне аб ператварэнні яго ў Гарадскі цэнтр культуры.

Сёння ў горадзе практычна няма сям'і, у якой альбо дарослыя, альбо іхнія дзеці не займаліся б у ГЦК. Супрацоўнікі цэнтра могуць знайсці занятак практычна на любы густ.

Перадусім трэба адзначыць народныя калектывы, што працуюць пры цэнтры. Той жа самы ансамбль танца "Лявоніха"; народны тэатр гульняў на чале з Аленай Чарных, дзе ўдзельнікі самі пішуць сцэнарыі, самі ставяць спектаклі, самі іграюць. Гэта і народны габрэйскі тэатр "Мерхавім", кіраўнік якога Барыс Бляхман шмат робіць для прапаганды габрэйскай культуры. Гэта і народны эстрадны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Лебедзева, і джаз-гурт "Віцебск", кіруе якім Сяргей Маісеенка.

Ніколі не бывае сумна на занятках клуба кветкаводаў-аматараў, які атрымаў званне народнага пасля ўдзелу ў мінскай ВДНГ. Кіраўнік клуба Аляксей Пірагоў — сапраўдны фанат сваёй справы — не толькі вядзе ўсю штодзённую работу аб'яднання, але і наладжвае лекцыі вядучых навукоўцаў, выставы кветак і іншыя мерапрыемствы.

Велізарнай папулярнасцю ў горадзе карыстаюцца маладзёжная студыя "Грацыя", клуб "Добрыя сустрэчы", маладзёжны цэнтр амерыканскай аэробікі, курс дэкаратыўнай касметыкі, дыскусійны клуб, нядзельная школа, клуб філафаністаў, аматарская відэастудыя "Спектр", аркестр народных інструментаў, маладзёжны эстрадны аркестр.

Асобная размова — пра дзіцячае аб'яднанне ГЦК. Без перабольшання можна сказаць, што дзіця можа абраць для сябе занятак на любы густ. Калектыў сучаснага эстраднага танца, курсы англійскай мовы для самых маленькіх, клуб гісторыка-тэхнічнага мадэлявання, клуб "Барбі" — проста немагчыма пералічыць усе творчыя аб'яднанні ГЦК, якія ахвотна наведваюць юныя жыхары горада. І гэта не пустыя словы. У клуб "Барбі" ягоны кіраўнік Галіна Кляонская запрашае самых "неперспектыўных" дзяцей, якіх не ўзялі ў іншыя гурткі.

Не ўсе аб'яднанні ГЦК працуюць сёння бясплатна — такі час. Гэта датычыць, напрыклад, курсаў дэкаратыўнай касметыкі, моўных гурткоў, цэнтра аэробікі. Аднак плата за наведванне гурткоў чыста сімвалічная — 60 — 80 тысяч на месяц. У іншых установах культуры гэтыя лічбы нашмат вышэйшыя.

Сярод апошніх ініцыятываў супрацоўнікаў ГЦК — арганізацыя святочнага жаночага салона, свайго кшталту супермаркета з жаночым ухілам. Мерапрыемства гэтае прыйшлося даспадобы гараджанам і цяпер плануецца наладзіць яго зноў. Дарэчы, да Новага года ГЦК прапанаваў віцяблянам самыя розныя мерапрыемствы — візіты Дзеда Мароза, культурныя брыгады ў працоўных калектывах горада.

Спадабаўся гараджанам і ўпершыню праведзены конкурс "Віцебская прыгажуня". Было вырашана і надалей праводзіць конкурсы прыгажосці. І не толькі сярод дзяўчат: запланаваны конкурс на самага прыгожага і абаяльнага мужчыну.

Усёй гуртковай работай у ГЦК кіруе калектыў супрацоўнікаў на чале з намеснікам дырэктара цэнтра па культурна-масавай рабоце Людмілай Дзмітрук. Немагчыма было ўстрымацца ад пытання: навошта ўсё гэта трэба супрацоўнікам бюджэтнай установы, чыя зарплата сёння меншая за зарплату прыбіральшчыцы?

— Ідэалісты заўсёды былі і будуць, — лічыць Людміла Пятроўна. — Акрамя гэтага, немагчыма ўсё нашае жыццё вымяраць грашыма. На маю думку, магчымасць зносінаў, рэалізацыя закладзеных у кожным чалавеку творчых здольнасцей каштуе значна даражэй. Мы не навязваем людзям той ці іншы занятак — усе творчыя аб'яднанні нарадзіліся з ініцыятывы нашых энтузіястаў. І мы па-ранейшаму запрашаем да сябе людзей з творчымі планамі.




Аднак, калі шчыра казаць, Гарадскі цэнтр культуры перажывае сёння не лепшыя свае часы. Значна менш стала наладжваемых для прадпрыемстваў і арганізацый святаў, вечароў адпачынку. А дарэмна. Унікальны вопыт ГЦК у арганізацыі шоу дазваляе ў сціслы тэрмін арганізаваць і правесці любое свята. Што б ні здарылася, а жыццё працягваецца, і без святаў яно стала б вельмі тужлівым.

Праблемы, што стаяць сёння перад Гарадскім цэнтрам культуры, немагчыма вырашыць за адно імгненне. І ўсё-такі калектыў аднадумцаў на чале з Радзівонам Басам не збіраецца апускаць рукі — не такія гэта людзі.

**Яўген ЦЮЧКАЛАЎ**

*г.Віцебск*

# "СЛАВЯНСКІ БАЗАР — 97"

***У Генеральнай дырэкцыі Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" адбылася сустрэча дырэктара Дырэкцыі — Радзівона Баса — з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Асноўнай тэмай гутаркі была падрыхтоўка да маючага адбыцца VI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар".***

Перадусім было адзначана, што фестываль адбудзецца з 10 па 16 ліпеня 1997 года. На сёння складзены праект праграмы фестывалю, асноўнымі падзеямі якога застаюцца: Міжнародны конкурс маладых выканаўцаў папулярнай песні і фестываль Дзіцячых шоу-праграм. Гэтыя мерапрыемствы будуць крыху абноўленыя — у Палажэннях аб конкурсах зроблены пэўныя змяненні, скіраваныя на пашырэнне магчымасцей выканаўцаў, у прыватнасці, удзельніку конкурсу маладых выканаўцаў даецца магчымасць запрасіць дырыжора для суправаджэння ягонага выступлення з фестывальным аркестрам, а таксама Палажэнне аб конкурсе прадугледжвае поўную штогадовую ратацыю сяброў міжнароднага журы. У праекце праграмы прадугледжаны традыцыйныя выступленні зорак славянскай эстрады. На сёння далі папярэднюю згоду на ўдзел у фестывалі наступныя выканаўцы: Валерый Лявонцьеў, Ігар Нікалаеў, Наташа Каралёва, Філіп Кіркораў і многія іншыя папулярныя артысты. Плануецца наладзіць юбілейныя вечарыны, прысвечаныя 10-годдзю Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і 25-годдзю творчай дзейнасці Сафіі Ратару.

Выбар запрашаемых выканаўцаў праводзіцца паводле асноўнага крытэрыя: папулярнасць і здольнасць "сабраць залу", у дадзеным выпадку Летні амфітэатр, бо ганарар выступоўцам выплачваецца зыходзячы з продажу квіткоў на канцэрты. Напэўна, квіткі ў наступным годзе на фестывальныя канцэрты будуць у 2 — 3 разы даражэйшыя за сёлетнія. Гэта тлумачыцца ўводам новага падатковага заканадаўства, якое прадугледжвае адмену ўсіх ільгот у падаткаабкладанні мерапрыемстваў культуры. Як мінімум 15 працэнтаў ад кошту квіткоў будзе складаць толькі падаходны падатак.

Праблема фінансавага забеспячэння фестывалю застаецца адной з самых актуальных. Як і летась, фундатары фестывалю з украінскага боку дасюль не ўнеслі сваёй часткі ў фестывальны бюджэт. Цяжар фінансавых даўгоў украінскай дэлегацыі ўзяў на сябе расійскі бок. Дарэчы, падчас сустрэчы арганізатараў фестывалю, што адбылася 3 — 4 лістапада, прадстаўнікі ўкраінскіх фундатараў адсутнічалі. Зараз разглядаецца варыянт ўзаемадзеяння з украінскім бокам на ўзроўні міністраў культуры Расіі, Беларусі і Украіны для таго, каб Украіна, як адзін з асноўных прадстаўнікоў славянскага свету, не страціла магчымасці ўдзелу ў Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар" з прычыны непрыстойнага стаўлення да пытанняў фінансавання арганізатараў з украінскага боку.

Што да фундатараў ад Беларусі, дык Генеральная дырэкцыя фестывалю дакументальна пацвярджае адсутнасць з боку ўсіх партнёраў якіх-небудзь фінансавых патрабаванняў, звязаных з арганізацыяй і правядзеннем "Славянскага базару", і выказвае ўдзячнасць Службе кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за дапамогу ў высвятленні лёсу "лётаючых" грошай, што былі выдаткаваныя ўрадам Рэспублікі Беларусь на правядзенне фестывалю.



Нельга сказаць, што фестываль аказаўся "нахлебнікам" дзяржавы, бо практычна ўся інфраструктура горада Віцебска, камунальныя службы, гандлёвыя арганізацыі, комплекс гатэляў атрымалі немалы прыбытак ад правядзення фестывалю. Да таго ж значныя плацяжы былі зроблены ў бюджэт дзяржавы ў выглядзе разнастайных падаткаў. Фестываль практычна самаакупны, але якімі грашыма можна вызначыць тую радасць і ўдзячнасць, што ўзнікаюць у сэрцах шматлікіх гледачоў і слухачоў "Славянскага базару" ў нашай краіне і далёка за яе межамі?

Для ўсіх, каму цікавы фестываль, арганізатары пастаянна імкнуцца рэалізаваць новыя праекты. У межах "Славянскага базару-97" плануецца правесці фестываль славянскай моды, на якім вядучыя мадэльеры славянскага свету прадэманструюць вечна маладое мастацтва моды.

Ёсць прапанова ад прадстаўнікоў гандлёва-прамысловай Палаты Беларусі аб правядзенні на "Славянскім базары" фестывалю беларускага піва, у якім возьмуць удзел вытворцы гэтага ўсенародна любімага напою.

Зменіцца фестываль кінапраграм, ён стане больш кампактным, і акцэнт будзе перанесены на прэзентацыі найбольш заўважных фільмаў — падзей славянскага кінематографа.

Яшчэ адзін праект звязаны са святкаваннем 850-годдзя Масквы, ён называецца "Славянскі свет вітае Маскву". Мяркуецца, што гэта будзе гала-канцэрт удзельнікаў фестывалю "Славянскі базар". Урад Масквы звярнуўся да Міжнароднай Карпарацыі "Славянскі базар" з прапановай аб арганізацыі гэтага праекта на Краснай плошчы ў Маскве 9 верасня 1997 года.

Безумоўна, гэтая прапанова сведчыць пра папулярнасць, прэстыж і высокі міжнародны ўзровень фестывалю.

Для многіх папулярных выканаўцаў "Славянскі базар" стаў "стартавай пляцоўкай" — іх заўважылі, пазналі і палюбілі шматлікія гледачы фестывалю. Менавіта гэтую мэту ставіць перад сабой ідэя правядзення Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў папулярнай песні, а найлепшых з удзельнікаў вылучыць міжнароднае журы. Старшынёй журы конкурсу маладых выканаўцаў на VI Міжнародным фестывалі мастацтваў даў згоду стаць народны артыст Рэспублікі Беларусь, вядомы кампазітар Ігар Лучанок. У склад міжнароднага журы будзе ўваходзіць таксама папулярны паэт-песеннік Уладзімір Някляеў. Народнаму артысту Рэспублікі Беларусь, мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь Міхаілу Фінбергу арганізатары прапанавалі ўскласці на сябе абавязкі музычнага кіраўніка конкурсу маладых выканаўцаў. Рэспубліку Беларусь у якасці ўдзельнікаў конкурсу будуць прадстаўляць пераможцы рэспубліканскага конкурсу "Зорная ростань". Дарэчы, Беларусь у якасці краіны-фундатара мае права прадставіць на конкурс трох удзельнікаў.

Напрыканцы было адзначана, што падрыхтоўка да фестывалю ідзе наперад буйнымі крокамі. Непазбежныя праблемы заўсёды можна будзе вырашыць, калі ва ўсіх, хто мае дачыненне да фестывалю, будзе добрая воля і ўсведамленне значнасці фестывалю як найбуйнейшай культурнай падзеі, прыцягальнага і аб'ядноўваючага магніта, што дае праявіцца найбагацейшай славянскай творчасці.

**Прэс-служба Генеральнай дырэкцыі фестывалю "Славянскі базар"**

*На здымку: імгненне леташняга свята.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

МАСТЫХІН




# МІХАІЛ САВІЦКІ. МАСТАК. ЧАС. ГІСТОРЫЯ

(Пачатак на стар. 1)



Альбом "Міхаіл Савіцкі", што нядаўна выдадзены Інфармацыйна-культурным цэнтрам "РАЙ" (дырэктар І.Зайцаў) з дапамогай Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і Прымірэнне" (старшыня праўлення В.Герасімаў), цалкам адпавядае гэтым патрабаванням.

Разлічаны як на шырокае кола аматараў мастацтваў, так і на спецыялістаў — дзеячаў культуры, ён, разам з тым, выкананы вельмі прафесійна. Сістэматызацыя і групіроўка выяўленчага матэрыялу падпарадкаваныя ў аўтара кнігі — Андрэя Савіцкага — задачы "асэнсаваць значэнне і месца мастака ў жывапісе XX стагоддзя", распавесці, чаму мастацтва М.Савіцкага з'яўляецца "мастацтвам служэння, доўга і любавання", у чым менавіта Майстар бачыць прызванне і сваёй творчасці, і сваёй чалавечай годнасці.

Міхаіл Савіцкі — мастак, пра якога напісана мноства артыкулаў і даследаванняў у розныя гады. Яны вельмі адрозныя паводле падыходу да творчай спадчыны жывапісца; таму аўтару новай кнігі было больш складана прааналізаваць і абагульніць у творчасці М.Савіцкага тыя асноўныя філасофска-эстэтычныя канцэпцыі, якія і вызначылі ягонае месца ў сусветным мастацтве.

Увогуле, на мой погляд, Андрэй Савіцкі гэтую задачу выканаў добра, хаця іншы раз занадта захапляецца гісторыка-мастацтвазнаўчымі, некалькі абстрагаванымі паралелямі і тэарэтычнымі развагамі. З гэтай прычыны артыкулы часам набываюць пэўны акадэмізм.

Міхаіл Савіцкі належыць да таго пакалення выдатных савецкіх і постсавецкіх мастакоў, з творчасцю якіх звязаны многія прынцыповыя змены ў лініі развіцця айчыннага жывапісу. І гэтыя змены тычацца не толькі "новага" погляду мастака на, здавалася б, ужо даволі "надакучлівыя" тэмы Вялікай Айчыннай вайны, "тэмы працы", "тэмы рэвалюцыі" і да т.п., у якіх жывапісец "вызначае час як праяву вечнасці", стварае "вобраз часу — своеасаблівага асяродка, дзе разгортваюцца містэрыя быцця і трагедыя чалавека".

Але М.Савіцкі для сваёй галоўнай творчай магістралі (я б вызначыў яе такімі катэгорыямі, як Жыццё і Смерць, Дабрыня і Зло, Прыгажосць і Агіднасць, Вечнасць і Імгненнасць, Любоў і Нянавісць) знайшоў арыгінальныя і яскравыя пластычныя і кампазіцыйныя інтанацыі. Інтанацыі, што зыходзяць з традыцый сусветнага мастацтва, але таленавіта ператвораны ў індывідуальную вобразна-філасофскую сістэму.

У гэтым сэнсе імпануе адэкватнасць аналізаў твораў, зробленых аўтарам артыкула, ягонае ўважлівае стаўленне да характэрных і істотных менавіта для дадзеных твораў дэталяў, уменне ў кожным выпадку знайсці і падкрэсліць пластычную і стылёвую своеасаблівасць той альбо іншай карціны.

Так, найбольш удалымі ўяўляюцца аналізы серый палотнаў "Лічбы на сэрцы", "Чорная быль" і карцін "Хрысціянскага цыкла". Побач з шырока вядомымі творамі публікуюцца і тыя, з якімі чытач яшчэ не сустракаўся. Частка з іх наогул разглядаецца ўпершыню.

Трэба толькі ўзрадавацца з нагоды з'яўлення такога цудоўнага альбома. Зроблена вялікая праца — выдадзена значная, рэпрэзентатыўная кніга, што ўтрымоўвае 161 (!) каляровую і 20 чорна-белых рэпрадукцый і больш за дзесяць дакументальных фатаграфій самога мастака, зробленых у розныя гады.

Надрукавана кніга, на жаль, невялікім накладам на рускай і нямецкай мовах, на цудоўнай паперы, у друкарні Рэспублікі Чэхія "SVOBODA PRINTING HOUSE".

Хто здолее набыць гэты унікальны альбом, будзе сапраўды шчаслівым і душэўна багатым чалавекам.

**Барыс КРЭПАК**

*На рэпрадукцыі: М.Савіцкі. "Мастак і мадэль". П., а. 1996.*

**21 студзеня ў Палацы мастацтва адбыўся святочны і шумлівы вернісаж выставы жывапісу Андрэя Смаляка. Па-рознаму можна ставіцца да яго мастацтва. Хтосьці папракне мастака ў нейкай "салоннасці", хаця сама па сабе салоннасць не павінна мець прыніжальнага адцення, бо ў мастацтве гэтая катэгорыя не густавая, а стылістычная. Нехта можа паскардзіцца, што Смаляк нібыта "праходзіць" паўз сённяшнія злабадзённыя праблемы жыцця, паўз яе складаныя і жудасныя метамарфозы. Але гэта з якога боку паглядзець. Бо апяванне вечнага Хараства жанчыны, паэзіі яе душы, ахова Прыгажосці ад навальніцы зла — ці не гэта галоўная мэта мастацтва?**



# "ДЛЯ МАСТАКА ВЕЛЬМІ ВАЖНА ПРЫЗНАННЕ..."

Інакш кажучы, мастак проста піша тое, у што верыць і што яго хвалюе. І піша так, як умее.

Тэма радаснай паўнаты быцця, у цэнтры якога знаходзіцца Яе Вялікасць Жанчына, мае ў Смаляка змястоўную культурна-гістарычную аснову, укаранёную і ў асабістым, і ў грамадскім жыцці. Яе распрацоўка вялася жывапісцам у розных накірунках і нават стылях, пачынаючы ад пластычных пошукаў свайго "Я" ў "Блакітным пакоі" і сканчваючы свядомымі рэмінісцэнцыямі вобразаў старога добрага заходнееўрапейскага жывапісу. А ў выніку ягонае мастацтва набыло такую радасную свабоду, зграбнасць і натуральную прастату, што, здаецца, вызваліла гледача ад пакутлівых "вечных" пытанняў, невырашальных таямніц і цяжкіх загадак быцця. Адкрытае і ўзвышанае, яно вядзе за сабой мякка і ненавязліва, ствараючы атмасферу летуценных разваг і заміранага спакою.

Вось што кажа пра сябе і сваё мастацтва Андрэй Смаляк: "Ніхто не чакаў, што я стану тым, кім я стаў. Безумоўна, мне было крыўдна, калі я хадзіў са сваімі карцінамі нікому не патрэбны. Для мастака вельмі важна прызнанне. Але калі быць аб'ектыўным, дык мае тагачасныя творы "недацягвалі", і сёння я гэта разумею. Яны былі някепскія, але не больш за тое. Самае галоўнае, я адчуваў — ува мне жыве znічка Боская. Пэўны час гэты скарб хаваўся ўва мне, не знаходзячы выйсця. І раптам здарылася!

Я цвёрда перакананы, што ў кожным чалавеку першапачаткова закладзена геніяльнасць. І ён (чалавек) абавязаны асэнсоўваць сваю унікальнасць і ставіцца да ўсяго, што ён стварае, як да самага важнага, неабходнага, значнага ў гэтым свеце. Толькі з гэтай веры і нараджаецца самае лепшае на зямлі. Таму я і ўпэўнены, што пішу выдатныя творы! Магчыма, гэта цудоўны самаабман? Але ж не, гэта праўда! Мне Бог даў зусім абсалютную геніяльнасць. Зямное ўвасабленне гэтага дару — жонка Вольга. Мне ўвогуле падаецца, што Андрэй Смаляк — гэта Яна. Праз яе чысціню, дабрыню, пяшчоту, набожнасць мне адчыняецца высокая Ісціна, вялікае Мастацтва".

Ён знайшоў свой шлях і ідзе па ім так, як загадвае яму мастакоўскае сумленне, асветленае любоўю і дабрынёй.

**Б.К.**



*На здымках:*
*на вернісажы выставы жывапісу А.Смаляка. Спявачка Ліка Ялінская і Андрэй Смаляк.*
*А.Смаляк. "Вольга". П., а.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*Уладзімір МІНЕЙКА:*

# "ГЭТА — МАЁ ЖЫЦЦЁ..."



"Маё станаўленне як асобы адбылося ў гады Вялікай Айчыннай. Спачатку перажыў Ленінградскую блакаду. Потым — ваяваў у складзе 44-й гвардзейскай танкавай брыгады, камандаваў "трыццацьчацвёркай". Але калі б маё сэрца запомніла толькі вайну, мабыць, я б як мастак не адбыўся.

Я гадаваўся сярод мужных людзей. І лічу: мужнасць — прывілей добрых. І я імкнуся, каб у маіх карцінах было больш дабрыні, святла, цеплыні. Таму моцна веру: не толькі цяжкі і горкі вопыт дае мастаку душэўную сілу і цвёрдасць поглядаў. Безумоўна, перажытае, здараецца, робіць чалавека жорсткім, спусташае душу. Гэта ўжо залежыць ад самога чалавека.

Вядома, цяжкасць, узрушэнні загартоўваюць, але ж зусім не абавязкова, каб біяграфія мастака была напоўнена толькі імі. Важна, каб яна была змястоўная. Пагэтаму я пішу шмат карцін рамантычных і лірычных, шмат пейзажаў, партрэтаў маіх сучаснікаў. Аднак пішу і мінулае, у тым ліку і вайну: куды ж ад яе падзенешся, калі яна прайшла праз самае тваё нутро? Але імкнуся ўсё гэта адфільтраваць скрозь сённяшнюю прызму бачання...

На сваю юбілейную выставу я прадставіў толькі частку маёй творчай спадчыны самых розных гадоў, уключаючы, магчыма, і спрэчныя творы. Але гэта — маё жыццё..."



*На здымках:*
*У.Мінейка. "Аўтапартрэт". П., а.*
*У.Мінейка. "Красавік". П., а.*

АВАНСЦЭНА

# ПРАФЕСІЯ — ЛЯЛЕЧНІК

***Невядома, што прываблівала шаснаццацігадовага юнака, калі той у пасляваенным сорак пятым прыйшоў у Смаленскую філармонію. Але, не паспеўшы пачацца, яго кар'ера спевака скончылася празаічным "Прыходзьце, калі падрасцяце". Толькі ён не адчайваўся. Захапіўшыся лялечным тэатрам, спачатку ў Смаленску, а з 1956 года ў Мінску, ён усё сваё жыццё звязаў з ім. Тады гэта быў звычайны юнак, цяпер — заслужаны артыст Беларусі Уладзіслаў Уласаў. У гэтым годзе ён адзначыў свой 40-гадовы юбілей працы на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек.***

Уласаў — акцёр без амплуа. Ён іграў надзіва розныя ролі: ад зухаватага Ямелі да Кашчэя са спектакля "Іван-царэвіч і шэры воўк", ад злаваснага Раджы з "Інданезійскай казкі" да Дзеда Курылы ў спектаклі "Сымон-музыка", ад бравага Швейка да Понція Пілата. Зрэшты, гэта толькі асобныя згадкі, бо за той час, што акцёр правёў на сцэне, ім створана каля 200 роляў. У адным спектаклі ён мог адначасова іграць трох непадобных персанажаў: злоснага тырана Мандарына і палахлівага Стражніка з казкі "Браты Лю", эксцэнтрычнага блазна, героя кірмашоў і балаганаў Труфальдзіна і высакароднага, лірычнага караля Дэрамо са спектакля "Кароль-алень". Цяжка сказаць, што ў акцёрскім багажы Уласава пераважаюць лялькі якогасьці пэўнага тыпу. Ён аднолькава прафесійна спраўляецца і з трысцявымі лялькамі, і з планшэтнымі, і з лялькамі-скульптурамі. Для акцёра сістэма лялькі, у першую чаргу, — гэта падстава для пошуку характару. Пэўныя індывідуальныя якасці персанажаў выяўляюцца якраз праз паходку лялькі, яе манеры. Адна дакладна знойдзеная дэталь можа даць зусім нечаканую афарбоўку. Яго Раджа з "Інданезійскай казкі" меў вузкія вочкі, тоўсты нос і танюсенькія палоскі чорных вусоў. Ён рухаўся, нібы танцаваў, выкідваючы наперад то адну руку, то другую. Ад такіх балетных рухаў мова яго ператварылася ў своеасаблівае падабенства спеваў. І ў гэтым малюнку злосць Раджы, яго жорсткасць перарастала ў сваю горшую ступень — садызм. Раджа нагадваў павукакрывасмока, які, куды б ні рухаўся, заўсёды імкнецца насустрач сваёй ахвяры.

Надзвычай важнае месца ў стварэнні акцёрамі вобразаў займае галасавая партытура. Тут і выплылі ўсе тыя дадзеныя, на якія неабачлівая дырэкцыя Смаленскай філармоніі не звярнула належнай увагі. Нізкі, густы бас Уласава стварае аўру гэдакага добрага Дзеда Мароза, які любіць пажартаваць, павесяліцца. І аказваецца, што гэтым голасам могуць гаварыць самыя розныя жывёлы і жывёлінкі, напаўжывёлы і зусім нежывёлападобныя істоты. Ён можа належаць як Дзеду Курыле з "Сымона-музыкі", так і самому Зеўсу ў спектаклі "Хачу быць богам". Голас персанажа жыве паўнапраўным жыццём, пакутуе, радуецца. Бывае, што знешні спакой героя не ўнушае аніякай веры, бо ў голасе мы адчуваем напружаныя ноткі трывогі. А некаторых сваіх персанажаў Уласаў наўмысна стварае на кантрасце статычнай пластыкі і багатай галасавой партытуры. У спектаклі "Майстар і Маргарыта" яго Понцій Пілат уяўляе сабою манументальную постаць з чэрапападобнай маскай-галавой. Зверху, з-пад самых каласнікоў, Пілат не гаворыць, ён вяшчае. Словы застываюць, згушчаюцца, завісаюць над залай і ўсім сваім цяжарам давяць на гледачоў. Кожная фраза абвінавачвальным прысудам кладзецца на плечы і не знаходзіць аніякага адпору. Здаецца, што Пілат дыктуе чыюсьці волю "зверху", але што можа быць вышэй?! Голас, узмоцнены нябачнымі мікрафонамі, злавесна-надтрэснута гучыць у пранізлівай пустаце замкнутай прасторы. У гэтыя хвіліны яму падуладна ўсё.

Большасць сваіх роляў акцёр будуе паводле прынцыпу нарастаючай прамой, калі ад сцэны да сцэны персанаж паступова развіваецца і ў фінале раскрывае перад намі ўсю сваю сутнасць.

Героі Уласава існуюць эпізодамі. Кожная сцэна персанажам дагрываецца і "закрываецца", а агульны малюнак ролі складаецца з ланцужкоў эпізодаў, кожны з якіх надае асаблівае і непаўторнае адценне вобразу.

Магчыма, у такой структуры і крыецца сакрэт поспеху шматлікіх эпізадычных роляў, сыграных акцёрам. Яго персанажы "другога плана" не толькі не губляюцца ў спектаклі, а часам, наадварот, становяцца яркімі момантамі спектакля, схопленымі злёту замалёўкамі, шаржамі. Адным вялікім штрыхом акрэсліваецца асноўная рыса героя, а потым ужо, калі трэба, на яе чапляюцца маленькія нюансікі.

У спектаклі "Тыграня Петрык" Уласаў сыграў Пінгвіна. У руках акцёра — стылізаваная нерухомая лялька. Але ён стварае не проста пінгвіна, а тып гандляра рыбай. Ягоны пінгвін паспявае ўсюды: бегае, мітусіцца, доўгім носам лічыць рыбу, збіваецца, памыляецца і пачынае зноў. А яго "Ёсць свежая навага!" — стала каронный фразай усяго спектакля.

Акцёр любіць ствараць паўзы і робіць гэта па-майстэрску. Ніводная яго роля не абыходзіцца без такіх маленькіх інтэрмедый. Калі Ямелю ў спектаклі "Па шчупаковай волі" абзываюць дурнем, ён доўга не можа ўцяміць, каго тычацца гэтыя словы. Але аблазіўшы ўсе закуткі і зразумеўшы, што звяртаюцца да яго, ён з годнасцю адказвае: "Я не дурань, я — Ямеля!". Пры гэтым вядуцца такія пошукі, быцам побач схаваны, па меншай меры, мех золата.

Майстэрства акцёра ўдасканальвалася, шліфавалася тэхніка і, нарэшце, сам акцёр выйшаў з-за лялькі. На маю думку, роля Швейка ў спектаклі "Прыгоды бравага салдата Швейка" — адна з самых цікавых работ Уласава. У гэтай пастаноўцы акцёр і лялька існуюць на роўных. Фактычна спектакль мае двух галоўных герояў. Адзін з іх — Швейк, які ідзе па жыцці з заўсёдным аптымізмам і жыццярадаснасцю. Другі — Уласаў, які бачыць сітуацыі ў іншым святле і рэагуе на іх зусім па-іншаму. Швейк жартуе — Уласаў іранізуе, Швейк жыве — Уласаў удзельнічае ў працэсе, Швейк знаходзіцца ўсярэдзіне падзей і глядзіць на іх вачамі простага салдата — Уласаў бачыць сітуацыю "зверху", з іншай гістарычнай дыстанцыі і ў некаторыя моманты выступае ад імя аўтара і рэжысёра. Швейк не думае пра акцёра — Уласаў, наадварот, з бацькоўскай ласкай аберагае свайго падапечнага і шчасліва праводзіць яго праз усе перыпетыі.

Нягледзячы на свой узрост, акцёр іграе ў многіх спектаклях тэатра — такіх, як "Боская камедыя" І.Штока, "Сымон-музыка" паводле Я.Коласа, "Майстар і Маргарыта" паводле М.Булгакава і інш. І калі, прыйшоўшы ў лялечны тэатр, вы ўбачыце дабрадушнага веселуна з белаю, як снег, барадою, ведайце: гэта Ён — Уладзіслаў Уласаў.

**Таццяна КОМАНАВА**





*На здымках: лялькі з спектакля "Прыгоды Бурацiна ў стране дурняў" і спектакля "Папялушка, ці перамога дабрадзейнасці".*

## МАМА КАРЛА, ЯКАЯ ЖЫВЕ МУЗЕЕМ

***Ці даўно вы былі ў музеі, дзе экспанаты можна патрымаць у руках, а не толькі паглядзець на іх? А ці часта вы ходзіце ў музей разам з дзецьмі? Вось менавіта такі музей адкрыўся ў Дзяржаўным тэатры лялек. Колькі лялек прадстаўлена там! І са старых пастановак, і з новых. Гаспадыня музея — Нэла Пахомава, якая прапрацавала ў тэатры каля трыццаці пяці гадоў, шмат вобразаў стварыла на сцэне...***

**— Нэла Віктараўна, як успрымаюць дзеці экспанаты музея тэатра?**

— Адкрыццё ўразіла ўсіх. Дзеці і дарослыя цікавіліся гісторыяй кожнага экспаната: як "нараджаецца" лялька, хто менавіта іх стварае? Безумоўна, дзіцячых пытанняў было шмат, хаця больш за ўсё дзецям хацелася дакрануцца да лялькі. Яны падыходзілі літаральна да кожнага экспаната і разглядалі шматлікія сістэмы тэатральнай лялькі. Хачу падкрэсліць, што асабліва падабаліся дзецям трысцявыя лялькі, бо ляльку адной рукой можна трымаць, а другой працаваць трысцямі. І лялька "ажывае". Рухаюцца рукі і ногі лялькі, заплюскваюцца вочкі і адкрываецца роцік. Каб вы бачылі ў той момант радасць у вачах дзяцей!

Прыемна, што некаторыя школьнікі прыходзяць у музей падрыхтаванымі. Яны ведаюць паэму Якуба Коласа "Сымон-музыка". Адразу ж пазнаюць лялькі, якія "іграюць" у знаёмых п'есах. Нават і кардынала Рышэльё ведаюць, нягледзячы, што "Тры мушкецёры" — спектакль дарослы.

**— Ці наведваюцца дарослыя ў музей?**

— Безумоўна. Музей наш працуе і на ранішніх спектаклях, і ўвечары. Калі да нас завітваюць дарослыя, яны заўсёды ўсміхаюцца. Магчыма, пабачыўшы лялькі, яны ўспамінаюць дзяцінства, узгадваюць спектаклі, на якія прыводзілі іх яшчэ маладыя бацькі.

**— Нэла Віктараўна колькі слоў аб самой экспазіцыі.**

— Вялікага памяшкання ў нас няма, таму экспазіцыя пастаянна мяняецца. Акрамя лялек-акцёраў, якія занятыя і цяпер у спектаклях, мы мяркуем выстаўляць і старыя лялькі. Між іншым, шмат экспанатаў чакаюць свайго часу ў запасніках тэатра. У хуткім часе ў музеі з'явіцца маленькая тэатральная шырмачка. Маленькія наведнікі змогуць паспрабаваць разыгрываць сцэнкі са знаёмых спектакляў, сказаць некалькі слоў у вобразе персанажаў.

Як доўга чакалі прафесіяналы з'яўлення такога музея, ведаюць толькі кулісы. А для тэатра такая падзея — сімвал гісторыі. Гледачу заўсёды цікава сустрэцца з дзяцінствам у наш мітуслівы дарослы час.

**Таццяна КОМАНАВА**

КАМЕРТОН

# КАЛІ ГУЧЫЦЬ АКАРДЭОН...

***Акардэон для людзей некалькіх даваенных і пасляваенных пакаленняў — гэта сімвал іхняй маладосці, масавых святаў, сяброўскіх сустрэч і прызнанняў у каханні. Ягоны ўсхваляваны голас гучаў пад небам Парыжа, на Чыстых ставах у Маскве. І сёння ён уздымае ў нашых душах успаміны пра мінулае шчасце.***

***Амаль кожны тыдзень чую па радыё акардэаніста з Ліды Уладзіміра Бубна. І кожны раз лаўлю сябе на думцы, што ягоная ігра не страчвае свежасці і прывабнасці.***

***Нядаўна гэты таленавіты музыкант вярнуўся з італьянскага горада Кастэльфідарда, дзе ён браў удзел у міжнародным конкурсе. Я папрасіў спадара Уладзіміра адказаць на мае пытанні.***

**— Перадусім дазвольце павіншаваць Вас з дыпломамі, атрыманымі на адным з самых прэстыжных конкурсаў. Распавядзіце, калі ласка, пра свае ўражанні.**

— Уражанні вельмі яскравыя. Конкурс сабраў выканаўцаў з дзевятнаццаці краін. Ён праводзіцца па розных узроставых групах і розных музычных стылях. Я выступаў у катэгорыях "джаз-саліст" і "джаз-ансамбль" (разам са мною ігралі Анатоль Міцкевіч і Зміцер Карабан).

У конкурсу склаліся даўнія традыцыі. Горад Кастэльфідарда месціцца ў прыгожым куточку правінцыі Анкона. Ён справядліва лічыцца міжнародным цэнтрам вырабу акардэонаў вышэйшага класа. Тут знаходзяцца вядомыя фірмы "Бугары", "Паола Сапрані", "Эксэльсіёр", "Вікторыя" і іншыя.

**— Ваш поспех далёка не выпадковы. За апошнія гады Вы наведалі большую частку Еўропы. Дзе давялося пабываць?**

— Геаграфія маіх вандровак вялікая. Мне пашчасціла ўдзельнічаць у многіх конкурсах і фестывалях. Сярод іх —міжнародныя фестывалі акардэоннай музыкі ў Вільнюсе і Даўгаўпілсе, у дацкіх гарадах Фрыдэрыце і Бінцліфе,у міжнародных конкурсах акардэаністаў у Клінгенталі (Нямеччына), Аўгустуве і Сувалках (Польшча), Інсбруку (Аўстрыя), Капенгагене (Данія). На міжнародным семінары акардэаністаў у Паланзе я выступіў адразу ў трох ролях: як музыкант браў удзел у канцэрце, выступіў з дакладам і правёў майстар-клас. На XXI Міжнародным конкурсе акардэаністаў у Кастэльфідарда (Італія) быў узнагароджаны чацвёртай прэміяй. Акрамя гэтага, пяць гадоў таму правёў у прамым эфіры канцэрт у студыі Беластоцкага радыё...

**— Унушальны спіс. У калейдаскопе падзей, канцэртаў, прэзентацый былі, напэўна, такія моманты, пра якія Вы будзеце ўзгадваць яшчэ неаднойчы. Што асабліва засталося ў памяці?**

— Мабыць, гэта маштабныя, я б сказаў, грандыёзныя фестывалі ў Інсбруку і Бінцліфе. У Інсбрук з'ехаліся 270 акардэонных аркестраў, мноства ансамбляў і бясконцая колькасць аматараў акардэона. Увогуле сабралася каля 10 тысяч музыкантаў. Цудоўная арганізацыя, высокі прафесіяналізм музыкантаў, выстава нот і інструментаў, заключны канцэрт у Алімпійскім комплексе — усё гэта ўражвала. Генеральны спонсар фестывалю, вядомая фірма "Хомер", стварыла сапраўднае свята акардэона на радзіме вялікага Моцарта.

На фестывалі ў Бінцліфе панавала такая ж атмасфера. Артыстам і публіцы было аддадзена некалькі вялікіх шатроў, у кожным з якіх было 6 тысяч гледачоў. Мяне здзівіла і ўзрадавала беззаганная акустыка.



Штодня з 10 гадзін раніцы і да ночы на сцэну выходзілі салісты, ансамблі, аркестры з Даніі, Швецыі, Нарвегіі. Акардэон у краінах Скандынавіі вельмі папулярны. Людзі з задавальненнем музіцыруюць і ўважліва слухаюць музыку.

**— Як развіваецца эстрадная акардэонная музыка на Захадзе? Якія тэндэнцыі Вы маглі б адзначыць?**

— Іх дзве: аматарскае і прафесійнае эстраднае выкананне. Акардэаністы-аматары іграюць, у асноўным, народную танцавальную музыку. Акардэаністы-прафесіяналы атрымліваюць вышэйшую музычную адукацыю, а потым нібы "перапрафілююцца" ў эстрадны жанр. Іхні кругагляд і кола інтарэсаў значна шырэйшыя. Яны, зазвычай, дасягаюць значных мастацкіх вынікаў у абранай сферы дзейнасці.

**— А на якім узроўні мастацтва ігры на акардэоне на Беларусі?**

— Нашы акардэаністы, больш дакладна, баяністы (у Еўропе сучасны баян называюць кнопачным акардэонам), заваёўваюць лаўрэацкія званні на міжнародных конкурсах класічнай музыкі. У нас склалася разгалінаваная сістэма прафесійнага навучання ігры на баяне і акардэоне. Вялікая заслуга ў падрыхтоўцы таленавітай моладзі належыць выкладчыкам кафедры баяна — акардэона Беларускай акадэміі музыкі.

**— З чаго складаецца Ваш рэпертуар?**

— На Беларусі амаль ніхто не стварае музыку для акардэона. Даводзіцца самому рабіць пералажэнні і ствараць п'есы. Шкада, што нашы кампазітары яшчэ не павярнуліся тварам да гэтага інструмента. А спрыяльныя ўмовы для гэтага ёсць. Поспех прыйдзе да таго, хто здольны ствараць цудоўныя мелодыі і хто застаўся ў душы свецкім, галантным чалавекам.

**— Раскажыце, калі ласка, пра Вашы бліжэйшыя планы.**

— Ёсць шмат цікавага музычнага матэрыялу, які з цягам часу ўвойдзе ў мой рэпертуар. Але спачатку трэба вырашыць арганізацыйныя пытанні, бо пасля сямі гадоў актыўнай канцэртнай дзейнасці я не маю, на жаль, неабходных умоў для плённай працы: няма прыстойнай апаратуры, пастаяннага памяшкання для рэпетыцый, адчуваю цяжкасці з арганізацыяй канцэртаў. Нягледзячы на праблемы, мяркую паказаць у Мінску новую праграму. Ёсць запрашэнні і з-за мяжы.

**— Вы з'яўляецеся загадчыкам народнага аддзялення Лідскай музычнай вучэльні. Выхоўваеце маладых акардэаністаў, якія затым працягваюць вучобу ў Акадэміі музыкі. Кожны год даяце дзесяткі канцэртаў. Як удаецца спалучаць у сабе адміністратара, педагога, артыста?**

— Гэта нялёгка. Аднак калі з'яўляецца цікавы праект, укладваеш усе свае здольнасці, творчыя сілы, каб дасягнуць выніку. У кожнага выканаўцы ёсць procьма ўсялякіх здольнасцей. Але часам рукі апускаюцца, калі падумаеш, што зноў трэба ісці "па інстанцыях" і "выбіваць" сродкі для канцэртнай паездкі.

**— Тым не менш дасюль Вы знаходзілі сродкі? Нехта ж Вам дапамагаў? Хто яны — Вашыя мецэнаты, Вашыя спонсары?**

— У першую чаргу трэба назваць старшыню Лідскага гарвыканкама Уладзіміра Міхайлавіча Мальца — кіраўніка, які пастаянна клапоціцца пра развіццё культуры ў нашым горадзе. Павінен выказаць удзячнасць дырэктарам АТЗТ "Піўзавод", "Еўратара", ВА "Лакафарба", "Нафтапрадукты", "Гарторга", АТ "Парацэць". Дапамагаюць нам таксама супрацоўнікі Беларускага Фонду Сораса.

Без падтрымкі гэтых людзей беларуская эстрадная акардэонная музыка наўрад ці здолела б зрабіць свае першыя крокі на міжнароднай арэне.

**— Дзякуй за гутарку. Творчага Вам плёну!**

**Гутарыў**
**Віталь РАДЗІВОНАЎ**

*На здымках: ансамбль "Фестываль" — Анатоль Міцкевіч (бас-гітара), Дзмітрый Карабан (ударныя інструменты), Уладзімір Рыжэнін (сінтэзатар) і Уладзімір Бубен (акардэон). Выступ у Кастэльфідарда (Італія). Кастрычнік 1996 г.*




# "ФАНФАРЫ БЕЛАРУСІ" І ДОРТМУНДСКІ КВАРТЭТ САКСАФАНІСТАЎ

***Сёння на беларускім канцэртным небасхіле часта з'яўляюцца новыя імёны выканаўцаў, дырыжораў, кампазітараў розных краін свету. Не так даўно аматары пачулі ў зале Белдзяржфілармоніі дортмундскі квартэт саксафаністаў. Іх прыезд быў арганізаваны беларускім дырыжорам Берыным, які падчас гастрольнай паездкі ў Германію з духавым аркестрам "Фанфары Беларусі" пазнаёміўся з кіраўніком квартэта Томасам Хаберкампам і запрасіў музыкантаў выступіць у Мінску.***

Нямецкія выканаўцы прапанавалі публіцы цікавую і разнастайную праграму. У канцэрце прагучалі творы эпохі Адраджэння, Барока, рускага рамантызму, а таксама музыка сучасных кампазітараў. Трэба адзначыць, што дортмундскі квартэт — адзіны ў Германіі квартэт саксафаністаў, у рэпертуары якога прадстаўлена музыка пяці стагоддзяў. Па словах музыкантаў, саксафановая школа ў Германіі арыентавана не толькі на джазавую музыку, але і на творы музычнай класікі. Тым не менш выканаўцы-саксафаністы аддаюць перавагу менавіта джазаваму накірунку, што, безумоўна, звязана з традыцыяй выкарыстання саксафона як эстраднага інструмента. Выкананне на саксафоне твораў Баха, Глазунова было навіной для нашай публікі.

Музыканты паспяхова справіліся са складанымі нумарамі з "Майстэрства фугі" Баха, дзе лінія кожнага голасу самастойная, а ўсе чатыры мелодыі спалучаюцца паміж сабой у тэхніцы адмысловых перапляценняў.

Творы Саламона Росі і Вільяма Берда ў выкананні квартэта па сваёй эмацыйнай змястоўнасці адпавядалі стылістыцы эпохі Адраджэння. Часам гучанне саксафонаў нагадвала тэмбр аргана, што таксама ва ўспрыняцці слухачоў выклікала асацыяцыі з музыкай XV стагоддзя.

Рэзкім кантрастам прагучаў твор сучаснага аўтара П.Блатнага "Кола", своеасаблівай была трактоўка квартэта для саксафонаў А.Глазунова.

Увогуле трэба адзначыць высокі выканальніцкі ўзровень, прафесійнае майстэрства музыкантаў, а таксама сапраўды нямецкую дакладнасць, выверанасць, акуратнасць, эмацыйную стрыманасць у выкананні.

Іншае ўражанне пакінула другое аддзяленне канцэрта, якое выклікала ў слухачоў і ўсплёск святочнага настрою, і эмацыйны ўздым. У ім выступілі лаўрэат міжнароднага конкурсу Камерны духавы аркестр музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат міжнароднага конкурсу духавы аркестр акадэміі музыкі "Фанфары Беларусі" пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Аркадзя Берына.

Публіка то прыслухоўвалася да вытанчанага дыялога флейты і каларатурнага сапрана ў творы Прохе "Тэма з варыяцыямі для каларатурнага сапрана з аркестрам", то рэагавала бурным эмацыйным водгукам на з'яўленне на сцэне аркестра "Фанфары Беларусі", які выконваў "Святочнае прывітанне" Ардэлоўскага, то захаплялася віртуознай тэхнікай трубача Лятэ, зладжаным ансамблем трох трамбонаў у "Інтэрмецца" Дзітрыха.

Завяршыў канцэрт "Каламбур" Перчука, які выклікаў захапленне публікі не толькі бліскучым выкананнем аркестра, але і харэаграфічнымі здольнасцямі саміх музыкантаў. Пастаноўка танцавальных нумароў праводзілася пад кіраўніцтвам дацэнта Беларускай акадэміі музыкі Я.Паўловіча.

Яркае, надзіва моцнае ўражанне пакінуў гэты канцэрт, дзе прагучалі і "Фанфары Беларусі", і дортмундскі квартэт саксафаністаў.

**Наталля ЮНХЕЛЬ**

# TV-ПРАГРАМА

## Аўторак, 28 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45, 19.30 Беларускі гіт-парад.
7.50, 17.45 Эканамікст.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.45 Навіны.
8.10 Абібок.
8.40 Эканамічная праграма.
9.00 Тэлебачанне — школе. "Мая Радзіма — Беларусь". 4-ы клас.
9.25 Тураб'ектыў.
9.45 "Я — следчы..." М. ф.
11.10 Акалада.
11.40 "Хто каго?" Спектакль тэатра "Хрыстафор".
15.10 Педагагічны экран. Сустрэча рэктараў ВНУ рэспублікі.
15.40 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 10-ы клас.
16.05 Усё пра ўсё.
16.30 Беларускі мерыдыян. Сакрэты тканых дываноў.
17.10 Урокі Н. Наважылавай.
18.10 "Шалёны дзень інжынера Баркасава". М. ф., 1-я ч.
19.15 Тэма дня.
19.35 Чацвёртае вымярэнне.
20.00 Трэці тайм.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 "Лінія смерці". М. ф.
23.25 Канцэртны сезон. "Шчыра Ваш — Якаў Навуменка!"

### ГРТ

11.00, 14.00, 17.00, 22.30 Навіны.
11.15, 22.40 Футбол. Кубак чэмпіёнаў СНД.
11.55 "Бялее ветразь адзінокі". М. ф.
13.15 Брэйн-рынг.
14.20 "Альберт — пяты мушкецёр".
14.45 Квар'етэ "Вясёлая кампанія".
14.55 Мультытролія.
15.10 Чароўны свет, або Сінема.
15.40 "Карын і яе сабака".
16.10 ...Да шаснаццаці і старэйшым.
16.35 Па старонках перадачы "Клуб падарожнікаў".
17.15 "Новая ахвяра".
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.05 "Тэма".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 "Мядовы месяц". М. ф.
23.15 Прэс-экспрэс.

### Расія

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15, 9.55, 15.25, 24.00 Тавары — поштай.
7.25 Рэтра-шлягер.
7.55, 19.35 "Аншлаг" прадстаўляе.
8.25, 17.40 "Клубнічка".
9.00, 20.10 "Санта-Барбара".
13.25 "Дочкі Калеба. Эмілі".
15.00 Баль прэсы.
15.30 Ваша права.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
18.10 Момант ісціны.
18.40 Асабліва важныя персоны.
21.10 "Добры вечар".
22.30 Тэлетэатр. В. Слаўкін. "Карціна".
23.10 Гукавая дарожка.

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10, 19.20 "Гісторыя кахання".
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.45 "Інжынерны (Міхайлаўскі) замак". Тэлефільм.
14.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
14.35 Мультфільм.
14.45, 21.00 "Забойны аддзел".
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 "Сімфонія Лімбурга". Тэлефільм.
16.20 Памяці Іосіфа Бродскага.
17.00 Дзіцячае ТБ.
17.30 "Няхай цвіце скрыпень". Тэлеспектакль. 1-я ч.
18.20 Мультфільм.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.15 Храм.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 Парадоксы гісторыі.
22.55 Музычнае шоў.

### НТБ

17.30 "Вуліца Сезам".
18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "Варожасць". М. ф.
20.45 "Няўклюды" С. Альтава.
21.40, 23.20 Часінка.
22.00 "Паліцыя Нью-Йорка". М. ф.

## Серада, 29 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45, 19.30 Беларускі гіт-парад.
7.50, 17.45 Эканамікст.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 24.00 Навіны.
8.10 "Танцуе Галіна Шляпіна".
8.35 "Мужчынскі рой". Д. ф.
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 10-ы клас.
9.25 Студыя "Калыханка".
9.55, 18.10 "Шалёны дзень інжынера Баркасава". М. ф.
11.00 "Апладысменты". Праграма пра і для людзей працы.
12.00 Відзьма-нявідзьма.
15.10 Мультфільмы.
15.40 "Белая каралева". Літаратурная гульня.
16.10 "Кампазітары Беларусі".
16.30 "Вострьі вугал". Прававы тэлечасопіс па пісьмах гледачоў.
17.10 "Дата". Тэленарыс пра ветэрана вайны, дырэктара НДІ неўралогіі І. П. Антонава.
19.15 Тэма дня.
19.35 "Пазнай сябе". Псіхалагічна-кансультатыўная праграма.
20.05 "Не будзіце стрыжоў!.." Монаспектакль.
20.20 "Хто гэта?" Тэлегульня.
20.30 Аўта-парк.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 "Выйсці замуж за капітана". М. ф.
23.20 Каралеўскае паляванне.

### ГРТ

11.00, 14.00, 17.00, 23.20 Навіны.
11.15, 23.30 Футбол. Кубак чэмпіёнаў СНД.
12.05 "Дні Турбіных". М. ф., 1-я ч.
13.25 Брэйн-рынг.
14.20 "Альберт — пяты мушкецёр".
14.45. Кактус і К.
14.55 До-мі-соль.
15.10 Кліч джунгляў.
15.40 "Карын і яе сабака".
16.10 ...Да шаснаццаці і старэйшым.
16.35 Па старонках перадачы "Клуб падарожнікаў".
17.15 "Новая ахвяра".
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.05 "Каб помнілі..." М. Драздоўская.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 "Холад Арктыкі". М. ф.
22.30 Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы.
0.05 Прэс-экспрэс.

### Расія

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15, 9.55, 24.00 Тавары — поштай.
7.25 Рэтра-шлягер.
7.55, 19.35 "Хамелеон".
8.25, 17.40 "Клубнічка".
9.00, 20.10 "Санта-Барбара".
13.25 "Дочкі Калеба. Эмілі".
15.00 На парозе стагоддзя.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Спосаб жыцця.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
18.10 Чалавек на Зямлі.
18.40 Асабліва важныя персоны.
21.10 "Добры вечар" з Ігарам Угольнікавым.
22.30 Ціхі дом.
23.10 Юбілейны вечар Андрэя Нікольскага.

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10, 19.20 "Гісторыя кахання".
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.45 "Помнік" Тэлефільм.
14.10 Асабістая справа.
14.35 "Мармуровы палац". Тэлефільм.
14.45, 21.00 "Забойны аддзел".
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 "Калі Лота стала нябачнай". Для дзяцей.
16.35 "Нідэрланды". Тэлефільм.
16.50 Музычнае шоў.
17.30 "Няхай цвіце скрыпень". Тэлеспектакль. 2-я ч.
18.10 Мультфільм.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.15 "Пажывём-пабачым". 7-я ч.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 "Палацавыя таямніцы".

### НТБ

18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "Качка ў апельсінавым соку". М. ф.
21.40, 23.20 Часінка.
22.00 "Паліцыя Нью-Йорка". М. ф.
0.00 Меламанія: "Род Сцюарт".

## Чацвер, 30 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45, 19.30 Беларускі гіт-парад.
7.50, 17.45 Эканамікст.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Навіны.
8.10 Аўта-парк.
8.20 "Шэсць снежных дзён". Тэлевізійны мастацкі фільм.
9.25 "Хто раскажа небыліцу?", "Давай мяняцца", "Футрачка для хмары", "Кракакот". Мультфільмы.
10.05 Каралеўскае паляванне.
10.45 "Шалёны дзень інжынера Баркасава". Тэлевізійны мастацкі фільм.
11.50 Госці ў дом. "Адзінага плямені дзеці". Татары ў Польшчы, Летуве і Беларусі.
12.20 Творцы. Дырыжор І. Мацюхоў.
15.10 "Бяскрылае гусяня". Мультфільм.
15.20 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Ядвігін Ш. і яго проза.
15.50 "Пад знакам "Ч".
16.10 Творцы. Мастакі Случчыны.
16.30 Кантрасты.
17.00 Музычны антракт.
17.10 Урокі Н. Наважылавай.
18.10 "Кодавая назва "Паўднёвы гром". М. ф., 1-я ч.
19.15 Тэма дня.
19.35 Крэда.
19.55 "Крок". "Оскар". Тэлегульня.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 "Тэлебарометр".
22.05 "Аперацыя "Ы" і іншыя прыгоды Шурыка". М. ф.
23.35 "Крок".

### ГРТ

11.00, 14.00, 17.00, 22.55 Навіны.
11.15 Футбол. Кубак чэмпіёнаў СНД.
12.00 "Дні Турбіных". М. ф., 2-я ч.
13.15 Брэйн-рынг.
14.20 "Альберт — пяты мушкецёр".
14.45 Лего-го!
15.10 Цін-Тонік.
15.40 "Карын і яе сабака".
16.05 Рок-урок.
16.35 Па старонках перадачы "Клуб падарожнікаў".
17.15 "Новая ахвяра".
18.10 Час пік.
18.35 Джэнтльмен-шоў.
19.05 "Мая сям'я".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 "Пёс Барбос і незвычайны крос", "Дзелавыя людзі". М. ф.
23.05 Канцэрт В. Дабрыніна.
23.55 Прэс-экспрэс.

### Расія

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15, 9.55 Тавары — поштай.
7.25 Мультфільм.
7.30 Рэтра-шлягер.
8.00, 19.35 Сам сабе рэжысёр.
8.30, 17.40 "Клубнічка".
9.00, 20.10 "Санта-Барбара".
13.25 "Бланш". Тэлесерыял. 1-я і 2-я ч.
15.00 "Маналог дырыжора". Вераніка Дударава.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Клуб губернатараў.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
18.10 Момант ісціны.
18.40 Асабліва важныя персоны.
21.10 "Добры вечар" з Ігарам Угольнікавым.
22.30 Эх, дарогі!

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10, 19.25 "Гісторыя кахання".
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.45 "Летні сад". Тэлефільм.
14.10 Парадоксы гісторыі.
14.35 Мультфільм.
14.45, 21.00 "Забойны аддзел".
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 "Калі Лота стала нябачнай".
16.35 Дзіцячае ТБ.
16.55 Сакрэтная размова з "Сакрэтам".
17.30 "Разам з Дунаеўскім". Музычны тэлефільм.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.15 Асабістая справа.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 Закулісce. "Рудольф Нурыеў".

### НТБ

18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "Жанчыны-зняволеныя". М. ф.
20.45 Доктар Вугал.
21.40, 23.20 Часінка.
22.00 "Паліцыя Нью-Йорка". М. ф.
0.00 "Кнігі Праспера". М. ф.

## Пятніца, 31 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45, 19.30 Беларускі гіт-парад.
7.50, 16.50 Эканамікст.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.50 Навіны.
8.10 "Тэлебарометр".
8.20 "Бархатны сезон".
8.50 "У засені ліпавых прысад..." Кінанарыс.
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 10-ы клас.
9.30 Мультфільмы.
9.55 "Люстэрка".
10.15, 18.10 "Кодавая назва "Паўднёвы гром". М. ф.
12.20 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
15.10 Мультфільмы.
15.30 "23 градусы 40 мінут на ўсход ад Грынвіча".
16.00 З гісторыі Беларускага тэлебачання. Тэлеспектакль "Ткачы".
17.00 "Сталіца". Гарадскі пасажырскі транспарт.
19.15 Тэма дня.
19.35 "Беларускі Іерусалім". Д. ф.
20.05 "Час і лёс". Тэленавела.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 "Жонка пайшла". М. ф.
23.20 Акалада.
24.00 Зімовы чэмпіянат Беларусі па лёгкай атлетыцы на прызы газеты "Спортивная панорама".

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55 Навіны.
8.15, 17.15 "Новая ахвяра".
9.10 "Мая сям'я".
9.50 Пакуль усе дома.
10.25 Іграй, гармонік любы!
11.15 23.05 Футбол. Кубак чэмпіёнаў СНД.
12.15 "Дні Турбіных". М. ф., 3-я ч.
13.20 Брэйн-рынг.
14.20 "Альберт — пяты мушкецёр".
14.45 "Царэвіч Проша". М. ф.
16.15 Мультфільм.
16.25 "Магія: свет звышнатуральнага".
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 "На мяжы нервовага зрыву". М. ф.
22.10 Погляд.
0.50 Прэс-экспрэс.

### Расія

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15 Крок за крокам.
7.30 Рэтра-шлягер.
8.00, 19.35 L-клуб.
8.30, 17.40 "Клубнічка".
9.00, 20.10 "Санта-Барбара".
9.55 Тавары — поштай.
13.25 "Бланш". М. ф.
15.00 Арт-абстрэл.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Арэна для сенсацый.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
18.10 Вертыкаль.
18.40 Асабліва важныя персоны.
21.10 "Добры вечар" з Ігарам Угольнікавым.
22.30 Будзем жыць". М. ф.

### Санкт-Пецярбург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10, 19.20 "Гісторыя кахання".
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.45 "Рэха над плошчай". Тэлефільм.
14.10 Ток-шоў "Наўздагад".
14.35 "Галасы". Тэлефільм.
14.45, 21.00 "Забойны аддзел".
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 "Калі Лота стала нябачнай".
16.35 Мультфільм.
16.45 Закулісce. "Рудольф Нурыеў".
17.30 Кубак Расіі па мотасанях.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.15 "Без назвы". Гумарыстычная праграма.
22.05 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30 "Як быць каханымі".
22.55 Дом кіно.

### НТБ

17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "...Па мянушцы "Звер". М. ф.
20.40 "Алё, Фіма!"
21.40, 23.20 Часінка.
22.00 "Паліцыя Нью-Йорка".
23.40 "Падглядач". М. ф.

## Субота, 1 лютага

### Беларускае тэлебачанне

8.00, 15.00, 21.00 Навіны.
8.10, 18.45 Беларускі гіт-парад.
8.15 "Рэгіён".
8.45 Існасць. Духоўная праграма.
9.15 "Лёс мой і надзея".
9.45 Здароўе. Зімовы авітаміноз.
10.15 Урокі Н. Наважылавай.
10.45 Мультфільм.
10.55 "Лато Лімпапо".
11.20 "Усё пра ўсё".
11.45 Свет прыроды і захапленняў.
12.10 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
12.40 Алімп: ад падножжа да вяршыні.
13.00 Калаж.
13.30 Канцэртны сезон.
15.10 Бенефіс заслужанага артыста Беларусі Валерыя Філатава.
16.00 Чэмпіянат свету па гандболе сярод жанчын. Беларусь — Летува.
17.25 Зорная ростань.
18.15 Галерэя.
19.05 "Печкі-лавачкі". М. ф.
20.40 Калыханка.
21.50 "Увесь тыдзень — нядзеля". М. ф.
23.35 Відзьма-нявідзьма.

### ГРТ

6.55 "Гараджане". М. ф.
8.20 "Кампутарныя войны-2". Мультсерыял.
8.45 Хатняя бібліятэка.
9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.10 Слова пастыра.
9.30 Не зявай!
10.00 Ранішняя пошта.
10.40 Смак.
11.00 Вяртанне Трэццякоўкі.
11.20 Біятлон. Чэмпіянат свету.
12.45 Разумнікі і разумніцы.
13.30 Відавочнае-неверагоднае.
14.20 "Архітэктура Маскоўскага Крамля". Д. ф.
15.00 Мультфільмы.
15.40 У свеце жывёл.
16.15 "Кола гісторыі".
17.40 "Аперацыя "Ы" і іншыя прыгоды Шурыка", "Самагоншчыкі". М. ф.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.55 "Сёгун". М. ф.
22.00 "Каламбур".
22.30 "Аўстралійскае танга". М. ф.

### Расія

7.00 "Фрам — палярны мядзведзь". Дзіцячы серыял. 1-я ч.
7.50 Мультфільм.
8.15 Клуб "Адрэналін".
8.30 "Здароўе".
8.40 Лепшыя гульні НБА.
9.30 Па вашых пісьмах.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.30 Парламенцкі тыдзень.
11.15 "Чэленджэрс".
11.45 Ялецкая матаня.
12.00 У свеце жывёл.
12.30 Ананімныя суразмоўнікі.
13.00 Весткі пра...
13.25 "Паэт у Расіі — больш, чым паэт".
13.55 Чэмпіянат свету па біятлоне. Жанчыны.
15.30 "Цёмная" для У. Лукіна.
15.45 Бясконцае падарожжа.
16.15 Суботні вечар Расійскага тэлебачання.
16.25 "Старая кватэра". Год 1948.
17.55 Суботні вечар з Вячаславам Малежыкам.
19.00 Весткі.
19.50 "Я вінаваты". М. ф.
21.45 Адкрытыя навіны.
22.40 Рэпарцёр.
23.10 Праграма "А".
0.05 "Сабакі-ІІ. Апошняя кроў". М. ф.

### Санкт-Пецярбург

9.10 "Гонар маю".
9.40 "Вялікі паход па нявест". М. ф.
11.10 Ток-шоў "Наўздагад".
11.35 Мультфільм.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
12.10 Да 60-годдзя Пецярбургскага ТБ.
14.10 Яшчэ адна Расія.
14.45 Расійская сядзіба.
15.10 Гістарычныя расследаванні.
16.10 Спартыўны агляд.
16.30 Гульня "Бінга".
17.30 "Ліцадзеі" прадстаўляюць... Ч.1-я.
18.40 Вялікі фестываль.
19.20 "Турэмны раманс". М. ф.
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 Група "Божая кароўка".
22.25 Экспрэс-кіно.
22.55 "Бацька і сын". М. ф.

### НТБ

17.00 Час "Ч".
17.30 "Крымінальная Расія: сучасныя хронікі". Д. ф.
18.00, 21.00 Сёння.
18.30 "Справы смешныя. Справы сямейныя". М. ф.
19.00 "Мафія бессмяротная". М. ф.
20.45, 21.45 Лялькі.
23.00 Шоў "Імперыя страсці".
23.35 Трэцяе вока.
0.20 "Плэйбой-шоў".
1.55 Тэніс.

## Нядзеля, 2 лютага

### Беларускае тэлебачанне

8.00 "Спорт і адкрыцці".
8.20 "Кола часу". Гістарычны каляндар. Люты.
8.50 Мультфільмы.
9.25 Тэлебом. Шоў-конкурс.
10.05 Студыя "Калыханка".
10.40 "Усё нармальна, мама!"
11.10 Тураб'ектыў.
11.30 Арсенал.
12.00 "Цыркі свету".
13.20 Вяршыня свету.
13.50 Кубак Беларусі па міні-футболе. Фінальны матч.
14.30 Востраў натхнення. "Я малюю".
14.40 Гісторыя кахання.
15.00, 21.10 Навіны.
15.10 Вяскоўцы.
15.40 "Спявае Ларыса Трухіна".
15.55 Госці ў дом.
16.25 "Вайна ў паветры".
16.50 Студыя "Акно".
17.05 Зімовы чэмпіянат Беларусі па лёгкай атлетыцы.
17.45 "Мітусня". М. ф.
19.10 Абібок.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спатыўны тэлекур'ер.
21.30 Ток-шоў "Карамболь".
22.10 "Гонар сям'і Прыцці". М. ф.
0.15 "Бархатны сезон".

### ГРТ

7.00 "Вусаты нянь". М. ф.
8.20 Мультфільмы.
9.00, 14.00, 23.00 Навіны.
9.15 Бесталковыя нататкі.
9.30 Пакуль усе дома.
10.05 Ранішняя зорка.
10.55 "Армейскі магазін".
11.25 Іграй, гармонік любы!
11.55 Правінцыяльныя гісторыі.
12.20 "Падводная адысея каманды Кусто".
13.15 Смехапанарама.
14.20 "Запрашэнне да музыкі".
14.55 Футбол. Кубак чэмпіёнаў СНД.
17.00 Мультфеерверк.
17.40 Адзін на адзін.
18.15 "Анёлы смерці".
20.00 Час.
20.40 "Сёгун".
21.35 Канцэрт Ф. Кіркорава.
22.30 Футбольны агляд.
23.10 Біятлон. Чэмпіянат свету.
0.00 "Цень". М. ф.

### Расія

7.00 Мультфільм.
7.30 "Фрам — палярны мядзведзь".
8.20 Латарэйныя навіны.
8.35 Добрай раніцы, краіна!
9.15 Прысяга.
9.40 Кніжная лаўка.
10.10 Прыз групы "Сава".
10.15 Расійскае лата.
10.55 Чэмпіянат свету па біятлоне. Мужчыны.
12.00 "Зоркі" раманса ў Астаф'еве.
12.30 Чалавек на Зямлі.
13.00 Весткі.
13.20 Іосіф Бродскі.
14.00 Музычны вітамін.
14.25 Урача выклікалі?
14.50 Вечны рухавік.
15.15 Сад культуры.
15.45 Нічога, акрамя...
16.00 Чароўны свет Дыснэя.
16.55 Увесь свет.
17.35 Мужчына і жанчына.
18.15 Мультфільм.
18.25 Караоке па-расійску.
19.00 Люстэрка.
20.00 Рэпартаж ні аб чым.
20.15 "Калена Клер". М. ф.
22.05 Марк Захараў у праграме "Фрак народа".
23.00 "Ва ўсіх на вуснах".
23.10 У Ксюшы.
23.45 Рэк-тайм.

### Санкт-Пецярбург

8.40 Гаючае слова.
9.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.40 Авертайм.
10.10 "Паляўнічыя". Д. ф., 1-я ч.
11.00 "Набярэжная навукі".
11.10 Раман з героем.
11.40 Рамансы 80-х гадоў.
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Зваротны адлік.
12.10 "Балерына". М. ф.
13.30 Гумарыстычная праграма.
14.10 Яшчэ адна Расія.
15.10 1. "Легенда пра спявачку". 2. "Марыінскі балет у Смольным".
16.10 Спартыўная праграма.
16.30 Дзіцячае ТБ.
17.30 "Ліцадзеі" прадстаўляюць...
18.40 Скарбы Пецярбурга.
19.20 "У наступную навагоднюю ноч я лягу спаць у 10.00". М. ф.
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноў смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.45 "Святло ў доме". М. ф.

### НТБ

17.30 "Расійскія цвікі".
18.00 Сёння.
18.30 "Справы смешныя. Справы сямейныя". М. ф.
19.00 "Гангстэрскія кронікі: Амерыканская гісторыя". 5-я серыя.
20.00 "Вынікі".
21.10 "Дробны нячысцік". М.ф.
23.15 Лепшыя цыркі свету.

ТВОРЧАЯ КУХНЯ




# МУЗЫЧНЫЯ ВЯТРЫ, ЯКІЯ НЯСУЦЬ СВЯТЛО

***Падчас фестывалю "Залаты шлягер" я наведаў нумар у гатэлі "Магілёў" і ўзяў інтэрв'ю ў спявачкі Наталлі Тамэлы. Размова атрымалася сумбурнай, нейкай неакрэсленай. Увесь час Наталля смяялася і размахвала рукамі. Так здарылася, што касета з запісам інтэрв'ю доўга праляжала на маёй працоўнай паліцы без станоўчага скарыстання... Матэрыял быццам бы стаў зусім не аператыўным... Быць можа, ужо неаб'ектыўным... Але неяк мы з фатографам Генадзем Жынковым трапілі ў цэнтральным Доме афіцэраў на курсы англьскай мовы, і там я зноў сустрэў Наталлю. Яна, канечне, вельмі сур'ёзна запыталася наконт свайго інтэрв'ю, і вось менавіта таму і прапаноўваю вашай увазе тэкст нашай размовы.***

**— Ты задаволеная вынікамі свайго выступлення?**

— Не-а. Вось як учора Фаік сказаў: члены журы былі аб'ектыўныя ў меру сваёй суб'ектыўнасці. Я прыкінула — нібы правільна. Конкурс наогул такая рэч, што тут аб'ектыўнасці ніколі не будзе. Тым больш у нашай краіне.

**— Ты лічыш, што члены журы цябе пакрыўдзілі?**

— Я думала, што мяне больш паважаюць нашы вялікія беларускія спевакі. Высветлілася, што я памыляюся. Але час паставіць усё на свае месцы. Што самае прыемнае — гледачы падыходзілі і выказвалі свае спачуванні: ах Наталля, а як вы? Адзін мужчына падышоў:"Я ад горада... Мы такія закаханыя ў вас. Мне так шкада... Вы самая лепшая." Але што ж рабіць — незаўсёды фартуніць. Хаця... я ўпэўненая ў тым, што ні робіцца — усё да лепшага. У мяне ўжо ёсць безліч прапаноў на канцэрты. Да мяне падыходзяць людзі і запрашаюць. Вось з Гомельскай філармоніі падыходзілі...

**— А за мяжу запрашаюць?**

— Так. Мяне запрашалі ў Амерыку. Неяк у нас праходзіў амерыканскі фестываль, і мяне запрасіў адзін кампазітар — ён вельмі знакаміты там.

**— Значыць, ты ўдзельнічаеш у замежных фестывалях?**

— Я нікуды яшчэ не выязджала. Але ў любы момант я магу сабрацца і паехаць — было б жаданне.

**— Ты не выязджаеш за мяжу — гэта звязана з недахопам грашовых сродкаў?**

— Я думаю — гэта не праблема набраць грошай. Галоўнае, каб быў якасны матэрыял, каб выступіць — выстраліць. Галоўнае, каб было запрашэнне, песня, а грошы знойдуцца. Гэта не пытанне. Грошы — вада, якая прыходзіць і сыходзіць і якую заўсёды хочацца піць.

**— Чым ты любіш займацца акрамя музыкі?**

— Спортам. Хаджу ў трэнажорную залу. Займаюся ангельскай мовай — тры разы на тыдзень. Мяне неяк запыталі: вы што, збіраецеся з'ехаць назаўсёды ў Амерыку? Я кажу: быць можа —калі любіць не будзеце. Болей часу, калі шчыра, ні на што не хапае. Ангельская мова, спорт і музыка. І пішу песні. Свае. Сама.

**— Можа, ты плануеш выйсці замуж?**

— Па гэтым пытанні суцэльныя нескладушкі нейкія. Вось чамусьці складана падабраць чалавека. Дзіўна атрымліваецца неяк з уласным жыццём. Я, мабыць, вельмі патрабавальная. У мяне гэткі характар — я магу падаўляць чалавека.

**— Хто ты па гараскопе?**

— Цялец. Так атрымліваецца, што мне трапляюцца слабейшыя за мяне. У рэшце рэшт я пазбаўляюся ад іх, як ад скарыстанага матэрыялу. Мне яны становяцца не цікавымі. Я цягнуся да музычнага асяроддзя — гэтых я разумею. З астатнімі людзьмі вельмі цяжка — у іх кампаніі мне становіцца сумна...

**— Мабыць, таму, што ты сама музыка...**

— Вядома!

**— Праўду ў народзе кажуць, што музыкі неардынарныя людзі...**

— Ненармальныя! Такія ненармальныя! Вар'яты проста. Калі што не падабаецца, пачынаюць адразу лаяцца. Я, напрыклад, заўсёды так.

**— На "Залатым шлягеры" ты атрымала грашовую прэмію...**

— У мяне ёсць адна невялікая запазыка — я нядаўна футра набыла. Вось — разлічуся!

**— Адчуваецца, што ты эмацыянальны чалавек, рамантычны, можа, ты спрабавала займацца жывапісам? У сакрэце ад усіх?**

— Дарэчы... наконт малявання... У мяне ў школе былі толькі двойкі! Гэта нейкі жах!

**— А з чаго пачалася твая музычная кар'ера?**

— Я была піяністка, гэткая закатаваная. Нават у аўтобусе і на парэнчах у пад'ездзе іграла. Ужо пальцы хадзілі хадуном — як загіпнатызаваныя. Тады і высветлілася мая ненармальнасць. Я пасля восьмага класа збіралася паступаць на фартэпіяна. У тыя часы я была захоплена класічнай музыкай. На конкурсах Шапэна грала, Ліста. Уся гэткая — рамантычная. Але на фартэпіяна я не паступіла — мне паставілі двойку. Я так спакойна пайшла да хаты і праплакала тры дні. Я не разумела ў чым справа — я ж так добра грала! Потым мне растлумачылі, што на фартэпіяна набралі сваіх людзей, і супакоілі: не трэба сумаваць — усё жыццё наперадзе. Пасля гэтага я пайшла ў дзевяты клас — у школу, што побач з праспектам Машэрава, з Гвардзейскай. Там стварыла свой інструментальны гурт, напісала песні і мы пачалі граць. Зараз я вучуся на чацвёртым курсе Універсітэта культуры. Прыходжу толькі на сесіі...

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

Уважаемая редакция газеты «Культура»! Вы самая «культурная» газета, мне очень приятно вас читать. Будьте всегда счастливы и пусть у вас всегда будет много читателей и денег. Н. Тамела.



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Алесь ЧАЙКА
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 27.01.97. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3250
Замова 143
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.